жураў: ПАЭЗІЯ-НЕ ЗАБАВА · ФАЛЬКЛОР · БОГ ВАЙНЫ


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 8 (469) | ГОД X | 21 ЛЮТАГА 1965 г. | ЦАНА 60 гр.


## КАРЫСНАЯ ЖАНІЦЬБА

Прывычка мае сілу казачнага вырвідуба. Прывыклі вось сяляне карыстаць «на крэдыт» з паслуг суседзяў і пераносяць гэты звычай на дзейнасць сельскагаспадарчых гурткоў.

А гурткоў ужо ёсць у вёсках Беластоцкага ваяводства звыш 2 тысячы. Залатоўка ліпне да залатоўкі і накапляюцца мільёны. Пад канец 1963 года такім чынам назбіралася пяць з палавінай мільёнаў злотых даўгоў. Калі ласка, уявіце сабе, колькі дзён гурткоўскія трактары ці малатарні працавалі фактычна без ніякай заплаты, паводле сялянскай прывычкі:

«Ну, што ж ты? Не верыш? Чэснае слова, аддам!».

На працягу трох кварталаў мінулага 1964 года назбіралася ўжо ў сялян Беласточчыны 11 мільёнаў злотых даўгу. Вось плён гурткоўскай валікадушнасці.

У распараджэнні гурткоў Беластоцкага ваяводства знаходзіцца зараз звыш 1700 абмалотачных агрэгатаў і паўтары тысячы трактароў з камплектамі дабавачных машын. Паспяхова могуць яны пераворваць цаліну сялянскай адсталасці. Чым больш гектараў яны заворуць, чым больш цэнтнераў збожжа намалоцяць, тым лепш і для сялян, і для дзяржавы. Гэта іх асноўнае заданне, ад якога нельга адступіць.

Што тады рабіць, калі селянін не мае якраз грошай, а хоча пазычыць нейкую машыну: не даць яму? Ён жа не атрымоўвае кожны месяц зарплаты. Каб здабыць грошы, мусіць прадаваць плады сваёй працы.

За працу трактароў і другіх машын сяляне заплацілі ў мінулым годзе сельскагаспадарчаму гуртку ў Юшкавым Грудзе каля 200 тысяч злотых. Гурток гэты дабіўся 25 тысяч злотых чыстага даходу. Сяляне за паслугі не вінаваты яму ніводнай залатоўкі.

Гурток у вёсцы Вараб'і (Беластоцкі павет) мае ў сялян усяго ледзь 300 злотых даўгу. Адначасова вартасць працы іх машынатрактарнага парку сягае 110 тысяч злотых.

Не, не толькі гэтыя два гурткі ў ваяводстве змаглі добра працаваць і адначасова не лавіць сабе кліентаў на вудачку

(Працяг на стар. 4)

МІКОЛА МІЦКЕВІЧ



Мой праздзед на розум васцёр —
На вёсцы філосафам слыў —
І з рук праз усё жыццё
Не выпускаў сахі.

Па святах за чаркай скупой,
Бывала, казаў недарма
Прыказкаю сваёй:
— Там добра, дзе нас няма.

За плугам і дзед хадзіў,
Касіў і стагі вяршыў
І многа ліхіх гадзін,
І многа цароў перажыў,

А толькі пры кожным з іх
Араў і касіў да цямна,
Казаў, як і прадзед, услых:
— Там добра, дзе нас няма.

Сыны падрасталі ўслед,
Чакала і іх бяда:
На снеданне і на абед
Варылася лебяда.

Як многа казалі тады
Пра залаты той край:
І дзядзька, зусім малады,
У далёкі махнуў Уругвай.

Чытаем лісты з-за мяжы —
Нам дзядзькава піша сям'я —
Што слова — то крык душы:
— Там добра, дзе нас няма.



# ВЯРТАННІ

Дзядзьку Кірыла Валасовіча з Катлоў сустрэў я пры яго штодзённых занятках і пагутарыў з ім у яго хаце дзве гадзіны. Дзядзька Кірыл расказваў свае жыццё, а я запісваў усё ў сваім блакноце. Потым дзядзька Кірыл скончыў, а я замкнуў свой блакнот з намерам схаваць яго ў кішэню.

— Цэлую кніжку запісалі, — сказаў дзядзька Кірыл.

— Так, цэлую кніжку, — адказаў я са смуткам.

Са смуткам, бо рэпарцёрскі блакнот, гэта ўсё ж такі не кніжка, а аб Кірылавым жыцці можна напісаць сапраўдную кніжку: тоўстую і цікавую. На жаль, кніжкі такой ніхто не напісаў і не напіша. І таму вырашыў я звычайна расказаць вам аб Кірылавым жыцці.

Нарадзіўся дзядзька Кірыл у Катлах 83 гады таму назад у 1881 годзе, кончыў прыхадскую школу і... дзіўная рэч, не захацеў быць «грэчкасеем». Ці то недалёкі Бельск уздзейнічаў на фантазію маладога тады дзядзькі Кірыла, ці можа настаўнік прыхадской школы разбудзіў зацікаўленне шырокім светам, хто яго ведае. Важным з'яўляецца тое, што дзядзька не захацеў араць бацькаўскі грунт, пакінуў 12 дзесяцін бацькаўшчыны для брата і пайшоў у шырокі свет. «Шырокі свет» быў тады значна меншы, чым цяпер, пачынаўся ён ужо ў паблісім Бельску, да якога рэдка хто, або і ніхто з вёскі не перасяляўся. Але для Кірыла было замала бельскай «шырыні», ён паехаў у Беласток, а потым у Варшаву. Пасля доўгага бадзяння ў пошуках працы і кавалка хлеба ўдалося нарэшце для Кірыла стаць на службу тамажніка недзе каля Каліша. Так пачалося бурлівае жыццё дзядзькі Кірыла. Службовыя абавязкі кідалі яго тысячы кіламетраў ад роднага краю, Кірыл праехаў усю Расію, Сібір і нарэшце апынуўся ў далёкай Маньчжурыі ля Кітайскай мяжы, на невялікай чыгуначнай станцыі — Бордзя. Штоправда, дзядзька Кірыл цвердзіць, што не шукаў прыгод, а толькі куска хлеба і спакою. Жыццё, аднак, не ашчаджала Кірылу прыгод.

У далёкай Маньчжурыі дзядзька на смерць пакахаў прыгожую чарнавалосую казачку, дачку Забайкальскіх казакоў. Казачка таксама пакахала Кірыла і... як часта ў такіх выпадках бывае, бацькі казачкі не згадзіліся аддаць яе за Кірыла. Чаго толькі не зможа вялікае каханне! Кірыл пастанавіў выкрасці бацькам пры-

(Працяг на стар. 4)



У зімовай вопратцы

фота: Ул. Паўлючук

## АБ ЛЕВЫХ ВІЛЕНСКІХ

Беластоцкае навуковае таварыства пры супрацоўніцтве Музея рэвалюцыйнага руху ў Беластоку падрыхтавала да выдання брашуру - кніжку «Lewica akademicka w Wilnie». Аўтар мгр Яўгені Філіпайціс — знаўца даваеннага віленскага студэнцкага асяроддзя, цяпер жыве ў Вроцлаве. У сваёй працы піша аб дзейнасці ў 30-ыя гады сярод студэнтаў Універсітэта імя Стэфана Баторага ў Вільні. Ведаем што Віленскі даваенны універсітэт быў цэнтрам вельмі жывучым, шумлівым Студэнты розных нацыянальнасцей прадстаўлялі тут свае прагрэсіўныя ідэі.

Кніжка выйдзе з друку ў красавіку. (вл)

## ЯШЧЭ АДНА БІБЛІЯТЭКА

1 лютага 1965 года пачала працу публічная бібліятэка ў вёсцы Сакалда. Такім чынам у вёсках Сакольскага павета дзейнічае зараз 17 публічных бібліятэк. Новая бібліятэка забяспечана Павятовай бібліятэкай у Саколцы цікавымі кніжкамі на польскай, беларускай і рускай мовах.





В. Лечук: АКНО НА ДЗЕНЬ УЧАРАШНІ.

В. Рудчык: ІМЯ СЯРЖАНА.

Г. Нажоўнік: ВЫЙГРАНЫ ЧАС (аднаактавая п'еса).

С. Грахоўскі: БУДЗЬ МУЗАЮ МАЁЙ.

М. Красоўскі: ДАМЯН ЗАСТАЕЦЦА ДАМЯНАМ.

# АМЕРЫКАНСКІЯ ПРАВАКАЦЫІ Ў В'ЕТНАМЕ

Бяссільнасць. Гэтае слова акрэслівае цэлы шэраг прычын амерыканскіх дзеянняў у В'етнаме. Дзесяць гадоў, дзесяткі тысяч амерыканскіх салдат, амаль мільённая сайгонская армія, найбольш сучаснае ўзбраенне і мільярды выданых Пентагонам долараў — усяго гэтага аказалася мала, каб перамагчы значна меншую колькасна армію партызан, якія змагаюцца за поўны суверэнітэт і незалежнасць Паўднёвага В'етнама. У Вашынгтоне ўпарта дашукваюцца прычын сваіх няўдач у паўднёвав'етнамскай вайне ў дапамозе, якую, нібы партызанам Фронту Народнага Вызвалення аказвае В'етнамская Дэмакратычная Рэспубліка. У Вашынгтоне не хочуць разумець, што Фронт Народнага Вызвалення Паўднёвага В'етнама з'яўляецца сілай, якая выражае народныя інтарэсы сваёй краіны, і таму яго падтрымлівае ўсё насельніцтва. Не хочуць разумець, што амерыканцаў лічаць тут захопнікамі, а сайгонскіх афіцэраў — васаламі, якія знаходзяцца на амерыканскім утрыманні.

Нянавісць да камунізма штурхае Злучаныя Штаты ў сляпы палітычны завулак. Гэтым завулкам з'яўляюцца спробы перанесці вайну ў паўночную частку В'етнама. Кожны разумны палітык ведае, што ў выпадку нападу на В'етнамскую Дэмакратычную Рэспубліку ў яе абароне стане Савецкі Саюз і Кітайская Народная Рэспубліка, а гэта азначала б сур'ёзны канфлікт на Далёкім Усходзе. Такім чынам, амерыканцы бяруць на сябе сур'ёзную рызыку і адказнасць за вынікі апошніх правакацый. Прычым адказнасць датычыць не толькі ваенных вынікаў, але і палітычных. Бо не толькі сацыялістычныя краіны, але таксама ўсе нейтральныя краіны пратэстуюць супроць амерыканскіх правакацый. З Афрыкі і Азіі раздаюцца пытанні: што робяць амерыканцы ў краіне, дзе ідзе патрыятычная барацьба з уласнай рэакцыяй. Ваюючы на баку гэтай рэакцыі, амерыканцы яшчэ раз паказваюць сябе абаронцамі страчаных пазіцый. Нават многія заходнія краіны, члены НАТО, крытыкуюць крокі ЗША. Некаторыя з гэтых краін, як, напрыклад, Канада, Бельгія, Данія ці Нарвегія, баяцца, што могуць аказацца ўцягнутымі ў дарагую і непатрэбную авантуру, іншыя (напрыклад, Францыя) маюць свае ўласныя канцэпцыі вырашэння паўднёвав'етнамскай праблемы. Прэзідэнт Францыі дэ Голь нядаўна запрапанаваў склікаць новую жэнеўскую канферэнцыю, падобную да канферэнцыі 1954 года, якая разглядзела б палітычныя аспекты в'етнамскай праблемы. Незалежна ад матываў гэтай прапановы, сам праект вельмі слушны і супадае са шматразовымі прапановамі Савецкага Саюза і іншых сацыялістычных краін.

Сёння ўсе, за выключэннем амерыканцаў, разумеюць, што праблему Паўднёвага В'етнама можна вырашыць толькі ў духу жэнеўскага дагавора. Гэты дагавор, як вядома, накладаў на сайгонскі ўрад абавязак правесці дэмакратычныя выбары ў атмасферы поўнай свабоды да 1956 года. Вядома, тэрмін гэты даўно ўжо мінуў і замест выбараў у Паўднёвым В'етнаме была арганізавана генеральная расправа з прагрэсіўнымі сіламі. Аднак ні расправа, ні пазнейшыя вядомыя факты не прынеслі сайгонскім правіцелям спадзяваных вынікаў. У сённяшніх умовах адзінай магчымасцю ўстанаўлення міру ў гэтай частцы Індакітая з'яўляецца зварот да жэнеўскага дагавора.

Працягванне в'етнамскай вайны сёння азначае ўжо толькі адно: павелічэнне з дня на дзень размераў паражэння, якое панясуць каланізатары.

Становішча ў Паўднёвым В'етнаме хуткімі тэмпамі набліжаецца да такога крытычнага пункту, якім адзінаццаць год назад было на поўначы краіны Бен-Бен-Фу. Адзінаццаць год назад французы правільна зразумелі дадзены ім урок у гэтым паражэнні. Ці амерыканцы сёння павінны абавязкова дасягнуць найвышэйшую ступень паражэння? Усё гаворыць аб тым, што так. Хіба што голас народаў свету — а голас гэты не застаецца без значэння — вымусіць ЗША саступіць з гэтай згубнай дарогі.

УЛ. ЛАЗІНСКІ

**Пасол ЗША ў Паўднёвым В'етнаме генерал Тэйлар не паспявае ўсачыць за ўрадавай чахардой у Сайгоне. (З газет)**



САЙГОНСКІ ТВІСТ

Мал. Б. Яфімаў

## Жыцця БГКТ

### Змястоўны план

На бягучы год гарадскі аддзел Беларускага таварыства ў Беластоку апрацаваў даволі цікавы і змястоўны план дзейнасці. План прадбачвае далейшую апеку над дзіцячым курсам гарманістаў. Пачынаючы ад восені зноў будзе набор жадаючых вучыцца іграць. У сувязі з гэтым прадбачаны сходы з бацькамі дзяцей, выступленні дзяцей — курсантаў на ўрачыстасцях.

Аддзел БГКТ у Беластоку кожную нядзелю арганізуе дэманстрацыю савецкіх фільмаў. Арганізуе гледачоў, распаўсюджваючы сярод насельніцтва карнэты, а перад пачаткам сэанса выступаюць лектары з кароткімі дакладамі і гутаркамі на розныя тэмы, як напрыклад: гадавіны беларускіх пісьменнікаў, расказы аб выдавецтвах БГКТ, аб міжнароднай палітыцы і г.д.

Заўсёды добра ўдаюцца ўрачыстыя пасяджэнні (акадэміі), на якіх пасля ўрачыстых частак бываюць мастацкія выступленні харавога калектыву БГКТ, эстрады «Лявонісі», курсантаў-гарманістаў, або іншыя.

Згодна з планам гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку ў бягучым годзе арганізуе акадэміі прысвечаныя: гадавіне Чырвонай Арміі, Міжнароднаму дню жанчын, гадавіне Адраджэння Польшчы, 40 гадавіне Грамады, Кастрычніцкай рэвалюцыі. Апрача фільмаў для ўзрослых, аддзел арганізуе 5 фільмаў для дзяцей.

Заўсёды ў памяшканні ГП на вялікіх стэндах члены нашага таварыства бачаць выстаўкі пераважна з жыцця Савецкай Беларусі. Такіх выставак у бягучым годзе будзе аж 30.

Новым у дзейнасці гарадскога аддзела ёсць тое, што ён арганізуе дэкламатарскі конкурс беларускага слова, конкурс на беларускую песню і шахматны конкурс.

Для шырэйшага азнаямлення з беларускай культурай аддзел наладзіць у памяшканні ГП 4 выступленні найлепшых мастацкіх калектываў БГКТ.

У месяцы польска - савецкай дружбы аддзел правядзе «Дні беларускай культуры» спалучаныя з сустрэчамі пісьменнікаў. Будуць таксама наладжаны спатканні з кандыдатамі на радных у час выбарчай кампаніі, а таксама спатканні з грамадоўцамі. Апрача таго аддзел вядзе бібліятэку, кіёск продажу «Нівы» і выдавецтваў БГКТ, арганізуе спатканні з людзьмі прадпрыемстваў горада, арганізуе танцавальныя вечарыны, а таксама экскурсіі для свайго актыву і членаў. Гэта толькі асноўныя напрамкі дзейнасці гарадскога аддзела.

М. Х.

## Пазнаем свой край

# МАЛОЧНЫЯ ЗАРОБКІ

Ужо 3 лістапада бельская малачарская спулдзельня выканала свой гадавы план. За малако выплачана гаспадарам 39 мільёнаў злотых.

Не далей, як 12 год таму назад — у 1952 годзе тагачасны вялікі Бельскі павет меў план закупу малака на 3 мільёны літраў, які нават не выканаў поўнасцю. Цяпер на той самай тэрыторыі закуплена звыш 60 мільёнаў літраў, у дваццаць разоў больш. Тут усякія выясненні лішнія, рост нашай сельскай гаспадаркі і меліярацыі зрабілі сваё.

У мінулым, 1964 годзе пабудавана грамадскім чынам новыя малочныя пункты: у Альшэве, Андрыянках, Кнарыдах, Грабаўцы, Кнаразах, Катлах, Агародніках, Кожыне і Стрыках. Кошт аднаго пункта каля 140 тысяч злотых. У бягучым годзе прадбачана будова малочных пунктаў у Боцьках, Невіне-Баравым, Красным Сяле, Плёсках, Аўгустове, Праневічах, Сабятыне. Усіх разам малочных пунктаў спулдзельня мае 86, а прытым трэба ведаць, што бельская малачарская спулдзельня ахоплівае толькі частку Бельскага павета, рэшта належыць да малочнай спулдзельні ў Бранску.

Для цікавасці падаем, як расце план закупак малака. На 1964 год запланавана закупіць 12 мільёнаў 800 тысяч літраў малака, а закуплена — 14 мільёнаў 265 тысяч. На бягучы, 1965 год план закупак малака ўстаноўлена ўжо на 15 мільёнаў 100 тысяч літраў. Амаль на цэлы мільён больш, чым у 1964 годзе! Гэты план таксама будзе перавыкананы. Проста не верыцца, што дзесятак год таму назад аж з трох цяперашніх паветаў — Бельскага, Гайнаўскага і Сямяціцкага — не маглі закупіць нават двух - трох мільёнаў літраў малака...

Бельская малачарская спулдзельня арганізуе продаж канцэнтраваных кармоў для дастаўшчыкаў малака. За мінулы год распродана іх 1 мільён тон. У спулдзельні працуе 6 інструктараў, якія займаюцца пашырэннем рацыянальнай гадоўлі кароў. Гаспадары пабудавалі ўжо 160 сіласаў.

З важнейшых інвестыцый прадбачана на бягучы год будову ў Бельску парашкоўні малака абсталяванай найноўшай тэхнікай.

А вёска заробіць на малацэ новыя дзесяткі мільёнаў злотых. Галоўны бухгалтар бельскай спулдзельні цвердзіць, што гаспадары могуць лёгка аплаціць гэтымі мільёнамі ўсе свае падаткі. Ці так? Не ведаю, не лічыў.

Пэўнае адно: заробак на малацэ не малы.

(ся)

# МАГІСТР ІНЖЫНЕР АФІЦЭР

Пра гэтую вышэйшую навучальную ўстанову рэдка пішуць газеты, хаця яе выпускнікі карыстаюцца ў нашай краіне і за яе межамі вялікім прызнаннем. Дыплом гэтай школы, як правіла, гарантуе высокую, адказную, кіраўнічую пасаду.

Трамвай № 20 імчыцца ў напрамку сталічнага прыгарада Бэмова. Яшчэ некалькі астановак і вось мы на месцы. Тут памяшчаецца гэтая вышэйшая навучальная ўстанова — ваенны тэхнічны інстытут імя Яраслава Дамброўскага. Згодна з польскім скарачэннем будзем яго называць проста ВАТ. Калі пераступаеш парог гэтай школы ў сэрцы адчуваеш нейкае хваляванне. Гэта ж тут бярэ свой пачатак усё, што найбольш дасканалае, найбольш сучаснае ў нашай арміі, што найбольш захапляе і здзіўляе ў час ваенных парадаў. Але не толькі. Цывільныя даследчыя інстытуты і буйнейшыя прамысловыя прадпрыемствы часта карыстаюць з дапамогі навуковых працаўнікоў і тэхнічнага абсталявання ВАТ.

Вучыцца ў гэтай школе можа кожны здаровы мужчына (на жаль, дзяўчат не прымаюць), які мае атэстат сталасці (матуру) і пройдзе праз густое экзаменацыйнае сіта. Апрача нармальнага вельмі суровага экзамену па праграме сярэдняй школы кандыдаты на інжынераў у мундзірах праходзяць таксама экзамен псіхатэхнічны, пры дапамозе якога правяраюць схільнасці кандыдатаў да тэхнічных навук. Патрабаванні высокія. Нічога дзіўнага. **Адукацыя аднаго інжынера ў мундзіры каштуе каля паўмільёна злотых.** ВАТ адплочваецца высокім працэнтам спраўнасці навучання. Тут аж 80 працэнтаў пачынаючых выходзіць са школы з дыпломамі. Вынік, якім не можа пахваліцца ніводная вышэйшая навучальная ўстанова.

Школа дае студэнтам харчаванне, адзенне і кватэру, але ўзаемна патрабуе стойкай, сістэматычнай працы (навукі).

Адзін з кіраўнікоў ВАТ-у штогод заяўляе пачынаючым: «Хто ў нас ад пачатку не працуе самастойна ў сярэднім па 11 гадзін у дзень, той не мае чаго тут шукаць».

Навучанне на ВАЦ-е ідзе двума напрамкамі: адзін інжынерскі, другі магістэрскі — у залежнасці ад праяўленых на першым курсе здольнасцей і схільнасцей студэнтаў. Выпускнікі інжынерскага напрамку кіруюць потым прадукцыяй, а магістры распрацоўваюць тэарэтычныя пытанні. Вось не так даўно навуковыя працаўнікі ВАТ-у збудавалі арыгінальны апарат — «Лясэр». Гэта вельмі складаная электронная ўстаноўка, якая дазваляе перасылаць інфармацыю (размову, музыку, малюнкі) пры дапамозе згушчанай стужкі святла. Дасягненне гэтае лічылася ў свеце навукі вельмі высокім. Можна прыводзіць другія прыклады. У гэтай школе самае сучаснае ўсё: і тэхніка, і метады навучання.

Хто любіць матэматыку, хто адчувае сябе выключна моцна ў гэтым прадмеце, можа спрабаваць шчасця і здаваць экзамен на ВАТ. Заявы прымаюць мясцовыя ВКР-ы, яны таксама даюць больш дакладныя інфармацыі.

**На здымку: працуе электронны мозг «Урал» — адзін сярод тых, якім штодзень карыстаюцца студэнты ВАТ-у.**



# ПАЭЗІЯ — НЕ ЗАБАВА

Перада мной горба лістаў — вершаў з вёскі Г, Н, К, Ш і на ўсе іншыя літары алфавіту. Чытач «Нівы» ведае (і я ведаю), што рэдакцыя цешыцца кожным лістам, які нехта піша, шануе яго. А адказ гэтаму — горбы лістаў нашых чытачоў (друкаваныя і недрукаваныя), што тоўстымі акуратна зложанымі папкамі запаўняюць рэдакцыйныя шафы-архівы. Гэта матэрыял для будучых даследчыкаў. Гэта думкі нашых чытачоў — пералітыя на паперу і мы да іх з пашанай.

Так вось і цяпер, горба вершаў, законных просьбаў: «калі надаюцца, надрукуйце». Некаторыя былі надрукаваны. А рэшта? Да рэшты трэба таксама падыйсці па-людску — падумаць і справу уладзіць.

І такім чынам, мілы чытач, я маю правесці з Табою размову па шчырасці, аб тваіх вершах. Думаю, што ў шчырай размове мы можам сумесна павучыцца.

Наогул вядома, што кожны беларус — паэт. Асабіста цешуся з гэтага факта надзвычай. Душа паэта! Якая яна багатая і прыгожая. Сама не без граха. У час буйнай маладосці таксама пісала вершы. Здавалася мне тады, што яны надзвычай добрыя. Сёй-той з блізкіх хваліў, і гэта толькі ўмацоўвала мяне ў маім памылковым перакананні.

Вернемся аднак да душы паэта. Такое акрэсленне кагосьці, увогуле не абазначае, што той хтосьці нарадзіўся паэтам і піша вершы, якія павінны друкавацца. Ёсць паэты, якія ніколі ў жыцці ніводнага верша не напісалі. Але хвіліну, ці ўвогуле можна нарадзіцца паэтам? Тут пару шаем справу даволі далікатную. Большасць лічыць, што паэтам ужо родзіцца Х, ці У. Што інжынер праз навуку стаецца інжынерам, лекар праз навуку — лекарам і кожны іншы праз навуку стаецца кімсьці — гэта вядома кожнаму, нават дзіцяці. Толькі паэт не падлягае навуцы. Ён пад натхненнем хапаецца за аловак і піша паэзію.

Некаторыя людзі сеюць па полі,
А другія валочаць загоны,
Іншыя гной раскідаюць.
А другія яго прыкідаюць.

Стоп! Што гэта? Каму? І асабліва ў наш час, наш 20 век — век фізікі, матэматыкі, век думаючых машын. Жыццё ў месцы не стаіць. І змяняецца хутчэй, чым мы здольны да яго прыстасавацца. Кожная эпоха мае свой стыль, свае вымогі, уласныя мэты. Гавару гэта для таго, што ўсе вершы (нават па зместу), якія горбаю перада мной ляжаць, сядзяць у эпосе XIX-вечнага сентыменталізму.

На лузе траўка
Штось гаворыць,
Хороша грае Саўка,
Як возьме гармонік.

За домам лес гамоніць,
Здаецца чагось просіць,
А калі вясна вернецца,
Ён лістамі адзенецца.

Чытаючы (а верце, прачытала я дакладна ўсё) вершы заўважым, што многія з іх (асабліва ў апошнія гады) — гэта вершы сатырычныя, высмейванне п'яніц (найчасцей), гультаёў, бракаробаў, плятракар і г.д. Сама па сабе з'ява надзвычай добрая. Толькі ж ізноў: у якую сукенку яе адзець, ці абавязкова ў вершаваную? А не лепш і не лягчэй звычайна, вось так проста, так як гаворыцца? Умеем жа смешна і цікава расказваць аб смешных рэчах і на штодзень зусім не ўжываем верша.

Мы любім вершы Янкі Купалы. Нас асабліва парушаюць яго дарэвалюцыйныя вершы: аб прыгажосці роднай зямлі, любві да яе, аб бядзе народа. А будучы беларусамі, маем сэрца мяккае і душу чулую. Прытым паэзія Купалы, Коласа як родная служыць, і справядліва, самым высокім узорам мастацтва. Аднаго аднак нельга забыць. Дарэвалюцыйны час Купалы, а наш час — дзве розныя эпохі, а кожная з іх мае (паўтараю) уласныя мэты і уласныя метады.

Паэзія зараз (з'ява агульная для ўсяго свету) перажывае крызіс, як бы перажываецца. А ўжо напэўна няма моды пісаць вершам доўгія гісторыі, накшталт «Новай Зямлі» ці «Магілы льва». Апавяданне (чым карацейшае, тым лепшае), вось што мае будучыню ў літаратуры.

Таму мы не павінны нервавацца, што вершы ў нас не выходзяць. Тую ж гісторыю можна напісаць прозай і ёсць больш пэўнасці, што будзе надрукавана.

Не хачу сказаць, што ўсе павінны перастаць прабаваць пісаць вершы. Кожны найбольшы нават паэт на пачатку быў слабейшы. Трэба толькі ведаць, што часта бывае так, каб урэшце выйшаў добры верш, трэба напісаць дзесяткі дрэнных.

І навука, навука, навука. Дарэчы, адзін з аўтараў аб гэтым жа ў сваім самакрытычным вершы гаворыць.

Чаму ж я кепска так зрабіў,
Што зразу не вучыўся,
Спачатку добра ўсё ўмеў,
Цяпер ужо забыўся.

У вершы, які складаецца з 6-ці строфаў прыведзеная страфа з кожнага боку найлепшая. Можна толькі для яснасці тут дадаць, і на гэтым закончыць фельетон, што на навуку ніколі нікому не позна.

**ВЕРА ЛЕЎЧУК**

## Фальклор

Мікалаю, Тарадаю,
Дэ я тэбэ поховаю?
На долині пуд вэрбою,
І поплачу над тобою.
На долині пуд корчом,
І накрыю дэркачом.

Сею руту, сею мяту
Пуд бэрэзіною.
Рості рута, рості мята,
Уроді зо мною.

А я руту ізкошу,
Мяту позтынаю.
Я шчэ й замуж не пайду,
З рочок погуляю.

Гуляй, гуляй дівчынонько,
Пока своя маті,
І постэле і одягнэ:
— Лягай доньку спаті.

Гуляй, гуляй дівчынонько,
Пока гулеецца,
Бо як выйдэш за Ясенька,
Гуляне мінэцця.

Ад Тацяны Гаўрылюк (63 гады) з вёскі Леўкі, Бельскага павета, запісаў Юрка Дзмітрук.





**Беларуская тэлевізія выйшла на экран «Інтэрвізіі».**

**Акрамя Мінскага тэлевізійнага цэнтра ў Беларусі працуюць Гомельскі, Віцебскі і Брэсцкі тэлевізійныя цэнтры. Праз разбудаваную сетку трансляцыйных установак у бліжэйшы час тэлевізія прыдзе ў кожную беларускую сям'ю.**

**На здымку: дыктар Мінскай студыі тэлевізіі Зінаіда Бандарэнка пачынае вячэрнюю праграму.**

## Вестка БССР

Гродзенскі азотны завод разбудоўваецца. Пачалася тут прадукцыя карбаміду і сінтэтычнага аміяку. У сувязі з гэтай выдатнай падзеяй у беларускай прамысловасці Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Беларусі і Савет Міністраў Беларускай ССР апублікавалі віншаванне, у якім, між іншым, чытаем:

«Увод у строй дзеючых вытворчасцей сінтэтычнага аміяку і карбаміду з'яўляецца істотным укладам будаўнікоў і хімікаў у справу стварэння ў рэспубліцы прамысловасці азотных угнаенняў».

З Гомеля пішуць, што ў новым навучальна-лабараторным корпусе Беларускага інстытута інжынераў чыгуначнага транспарту створаны вылічальны цэнтр. З яго будуць карыстаць пры вылічэннях не толькі студэнты інстытута, але і Беларуская чыгунка, а таксама Савет Народнай гаспадаркі Беларусі.

Калектыў Беларускага аўтазавода завяршыў пагрузку 25-тонных самазвалаў для 12 краін свету. Апошняя партыя гэтых гігантычных машын адпраўлена ў Індыю. Знаходзяцца яны таксама на жалезарудным камбінаце ў Балгарыі, цэментавым заводзе ў Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы, у рудным кар'еры Кубы. Беларускія гіганты-самазвалы высока ацэнена і ў Аб'яднанай Арабскай Рэспубліцы. На новы, 1965 год атрымана новыя заказы на гэтыя машыны ад розных краін.

У раённым горадзе Пінску, пры вуліцы Кірава, паявілася «Фіялка». Так названа спецыялізаваны магазін галантэрэі і парфюмерыі. Пабудаваны ён з люстранымі вітрынамі, замест прылаўкаў невялікія тумбачкі. Усюды шкло, пластмаса. У мінулым годзе ў горадзе пастанавілі, што лепшы гандаль спецыялізаваны. У рэзультаце паявіліся «Дом адзення», «Вымпел» — магазін, дзе прадаюць толькі спартыўныя рэчы, а таксама фатаграфічныя апараты, радыёпрыёмнікі. Паявіўся і магазін аб назве «Сюрпрыз», дзе прадаюць падарункі, магазін «Вясёлка», дзе прадаюць трыкатажныя матэрыялы.

Ва ўсіх жывёлагадоўчых фермах сельскагаспадарчай арцелі «Семежава» ў Капыльскім раёне існуюць, так званыя, чырвоныя куткі. Цяпер устаноўлена ў іх тэлевізары. У вольны час збіраюцца тут людзі паглядзець перадачы тэлевізіі Мінска і Масквы.

Імя хірурга раённай бальніцы Васіля Гарустовіча добра вядома ў Пружанскім раёне. За дваццаць гадоў работы гэты чалавек выратаваў ад смерці тысячы людзей. Нядаўна ён зрабіў шасцітысячную аперацыю.

(С. Я.)

# Былы салдат Савецкай Арміі

Дзмітру Самасюку з Чэхаў Арлянскіх было няпоўных 17 год, калі гітлераўцы вывезлі яго ў Нямеччыну. Прымушалі такіх як ён цяжка працаваць, а кармілі дрэнна. Давалі толькі два разы ў дзень суп з бручкі. Строгі рэжым дня, надзвычай цяжкая праца, зняважванне чалавечай годнасці — усё гэта нарадзіла думку пабегу. Калі нагружаў ён з таварышамі шпалы на вагоны, зрабіў у іх месца, каб можна было сядзець. Перад адыходам цягніка ўлез ён у гэтую нару і доўга ехаў. Пасля пяшком дабіраўся да сваёй вёскі. Два тыдні хаваўся ў роднай хаце. Нямецкія лізуны выдалі Дзмітрыя Самасюка. Прыехалі жандары і зноў яго забралі і вывезлі на цяжкія прымусовыя работы. Прабыўшы там два месяцы, з Яўгенем Маркевічам з Дабрывод зноў уцякаюць. Ішлі пачаткова толькі ноччу. Елі толькі ягады. Калі скончыўся лес, ішлі полем, хаваліся ў высокім збожжы. Былі ўжо змучаныя, голад ім страшна дакучаў. І вось пабег ім ізноў не ўдаўся. Трапілі ў рукі нямецкай паліцыі. Маладых юнакоў зноў адпраўляюць на былое месца працы. Там над імі, як над вінаватымі, здзекаваліся немцы, білі, марылі голадам, на кожным кроку зневажалі. Хлопцы жылі толькі той надзеяй, што прыдзе Чырвоная Армія і вызваліць іх. Ужо было чуваць артылерыйскія выстралы і ўзрывы. Прайшло паўгода і скончылася няволя. Наступіла вызваленне. Дзмітрый Самасюк добраахвотна з'яўляе жаданне служыць у Савецкай Арміі, граміць ворага. Ваяваў на

(Працяг на стар. 5)

# КІРАЎНІК ЖЫЦЦЯ

Нядаўна адбылася справаздачная канферэнцыя Грамадскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў Рыбалах. З дакладам выступіў член ГК Аляксандр Наумюк. Многа месца прысвяціў ён як дасягненням партыйнай арганізацыі, так і іх недахопам. Шмат крытычных слоў было накіравана ў адрас ГРН і ГС у Бельску. Але найбольш займалі месца ў справаздачы сельскагаспадарчыя справы. Ім у асноўным былі прысвечаны таксама выступленні большасці дыскутантаў.

Таварыш Уляцюк гаварыў аб цяжкасцях працы гаспадароў на цераспалосіцы (шахаўніцы) у Рыбалах і Канюках.

— Менавіта таму, — працягваў ён, — у гэтых вёсках значна ніжэйшы жыццёвы ўзровень сялян. Пакуль не будзе праведзена камасацыя зямлі, дагэтуль поўнасцю нельга будзе карыстацца сельскагаспадарчай тэхнікай.

Механічная апрацоўка зямлі цесна вяжацца з існаваннем сельскагаспадарчых гурткоў. А каб гурткі добра працавалі, у іх праўленні павінны быць людзі з арганізатарскімі здольнасцямі, з аўтарытэтам. Падбор такіх людзей у праўленне гуртка — гэта вельмі важнае заданне для партыйных арганізацый. Важнае і тое, каб усе члены партыі цікавіліся працай сваёй сельскагаспадарчай арганізацыі. Як прыклад партыйнага кіраўніцтва сельгасгуртком можа паслужыць ПОП у Паўлах. Там сельскагаспадарчы гурток мае два трактары з поўнымі камплектамі сельскагаспадарчых машын, малацільны агрэгат, некалькі апрысківачаў і г.д. Усе машыны выкарыстоўваюцца правільна. Належна вядзецца дакументацыя.

Як прыклад дрэннай працы сельгасгуртка можна ўбачыць у Рэпісках. Гэты сельгасгурток, што праўда самы першы ў грамадзе закупіў трактар з усімі патрэбнымі да яго машынамі, а таксама і малацільны агрэгат. Пасля нейкага часу машыны, закупленыя за супольныя грошы, сталіся быццам бы прыватнаю ўласнасцю некаторых гаспадароў. Гуртκоўцы і сяляне вёскі перасталі мець карысць з сучасных сельскагаспадарчых машын. І тут неабходна было забраць трактар з Рэпіскаў.

Грамадскі аграном Аляксандр Наумюк гаварыў аб карысцях сіласнай пашы. Ён пастулаваў — кожны член партыі павінен пабудаваць сіласную яму.

Сакратар Павятовага камітэта ПАРП М. Юзючук падкрэсліў тое, што грамадская партыйная арганізацыя шмат увагі ўдзяляе моладзі, што адчуваецца належнае кіраўніцтва маладзёжнымі арганізацыямі, якія даволі добра разгортваюць культурна - асветнае жыццё паасобных вёсак. Добрым з'яўляецца і тое, што партыйная арганізацыя павялічваецца маладымі людзьмі з маладзёжных арганізацый.

На гэтай канферэнцыі 5 членаў Саюза сялянскай моладзі былі прыняты ў кандыдаты ПАРП. На заканчэнне канферэнцыя прыняла пастанову, змест якой можна сказаць у двух сказах: Партыйныя арганізацыі — кіраўнікі палітычнага, гаспадарчага і культурнага жыцця вёскі. Кожны член партыі на вёсцы гэта перш за ўсё добры гаспадар.

**Сяргей Філіпюк**
вёска Паўлы



Вёска Меляшкі зімою.

Фота: Аляксей Казёл

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# З КАНЁМ-ЯК З ЯЙКАМ

Часта гаворыцца, што хтосьці там мае «конскае здароўе». Невядома, адкуль пайшла такая пагаворка. Бо ж конь выключна ўражлівая і капрызная жывёла, асабліва на ўсялякія адступленні ў кармленні. Асабліва рэагуе на старыя, надпсаваныя кармы, на перакармленне. Конь вельмі хутка можа захварэць.

Гэта вельмі важная справа: у нашым жа ваяводстве больш 191 тыс. коней.

Шырока праславілася ў краіне, нягледзячы на эру механізацыі, конегадоўчая ферма, дзе разводзяць коней сакольскай пароды. Сакольскі конь невялікі, загартаваны, невыбрэдны, дужы. Якраз на патрэбы механізаваных гаспадарак, як дадатковая сіла.

Сакольскія коні спадабаліся нават афіцэрам індыйскай арміі, і Індыя закупіла сакольскіх коней для войска. Каневоды з іншых раёнаў краіны таксама цікавяцца гэтай пародай коней. Беласточчына мае ў гэтай галіне вялікія шанцы экспарту.

Таму варта бліжэй пазнаёміцца з конскай хваробай, якая найчасцей вынікае з малых ведаў селяніна. Гутарка ідзе аб так званай пасвяточнай хваробе, правільней скурчу мускулаў. Выступае гэта хвароба пераважна зімой і вясной, тады, калі конь мала працуе. Нявопытны селянін, хочучы дагадзіць каню, дае яму аўса ўволю. Гэта не толькі марнатраўства. Яшчэ горш бывае, калі конь атрымліваў малую норму, а аднойчы выбіраючыся ехаць на торг, гаспадар дае каню добра наесціся аўса. Выязджае тады гаспадар на кані, а вяртаецца пешшу. Конь падае ад паражэння мускулаў. Першыя прызнакі гэтай хваробы: штыўны крок, потым конь кладзецца і не можа ўстаць. Мача спачатку чырвоная, а потым чорная.

Сяляне рознымі спосабамі прабуюць лячыць, але найчасцей не абыходзіцца без ветэрынара. Каня выпрагаем і заводзім у цёплую стайню. Першая дапамога — расціранне ног, пераважна задніх, якія хапіў скурч, спіртам. Трэба звярнуць увагу на тое, што прычынай скурчу мускулаў з'яўляецца не толькі няправільнае кармленне. Часта гэта хвароба можа быць выклікана холадам і скразнякамі, якія пануюць у стайні. Прычынай можа быць таксама цёмная і душная стайня, калі конь не выходзіць на паветра некалькі тыдняў падрад. Конь прызвычаены да пастаяннага руху і працы. Доўгі зімовы «адпачынак» не толькі не памагае яму, але нават шкодзіць. Таму добры жывёлавод стараецца, каб яго жывёла (не толькі конь) мела заўсёды сонца, паветра і як найбольш руху нават зімой. З гэтай мэтай і робяцца загароды.

Для коней і зімой трэба знайсці нейкую працу. Шмат конь можа дапамагчы ў гаспадарскіх справах, у лесе, пры закладанні кампостаў, капанні торфу на ўгнаенне і г.д.

Калі няма ніякай працы, коні павінны выходзіць на шпацыр, найлепей штодзень. Абавязкова трэба зменшыць кармавыя нормы, асабліва збожжа.

**Інж. М. СУХАЖЭБРСКІ**

Палеміка

# ХЛУСНЯ

Мяне вельмі моцна раздражняе «палеміка» над артыкулам Уладзіміра Паўлючука — «Мары аб свеце адзіноцтва», надрукаванага ў «Ніве» 22 лістапада 1964 года. Дарэчы, ці сапраўды ёсць над чым весці палеміку? Ці гэтая палеміка патрэбна асяроддзю, якому перад усім павінна служыць «Ніва»? І ці артыкул Паўлючука заслугоўвае на такую палемічную вайну на старонках нашай газеты? Мне здаецца, што не. Перад усім артыкул Паўлючука не надаваўся да друку ў газеце з многіх прычын. Па-першае, яго змест не адказвае сучаснаму жыццю ні вёскі, ні горада. Па-другое, галоўная думка аўтара артыкула заключаеццца ў тым, што чытач сапраўды не ведае, як гэты артыкул зразумець, з якога боку яго чытаць, каб даведацца, што аўтар хацеў сказаць для грамадскасці, ці свае «мары аб свеце адзіноцтва» ці мары аб свеце сяброўства грамадскасці.

Уважліва прачытаў я кожную палеміку: Віктара Шведа, Віктара Рудчыка, Івана Чыквіна, Уладзіслава Дваракоўскага. Усе яны крычаць голасна, што артыкул Паўлючука недарэчны, што яго «нідзе не можна не прышыць — не прылатаць». Гэта праўда. Але далей гэта палеміка публікуецца на старонках «Нівы», тым горш, што гэтая палеміка ўжо не змяшчаецца ў рамках паўлючукоўскіх апанентаў. Яна сягае глыбей і з'яўляецца больш шкоднай, чым сам артыкул Паўлючука.

З гэтых палемік мяне найбольш раздражняе «Споведзь» А. Анташэвіча, надрукавана ў «Ніве» 17 студзеня г.г., таму што яна нічога супольнага не мае з артыкулам Паўлючука.

Ці знойдзецца ў нас хаця адзін чалавек, які сур'ёзна паверыў бы гэтаму «спаведніку»? Напэўна не знойдзецца.

А. Анташэвіч заклікае нас: «Хлопцы! У каляіну пакацілася шчырасць!» І адразу перад намі спавядаецца, а як спавядаецца, раскажу вам па-свойму. Наш спаведнік працаваў, як сам піша, у цэнтралі арганізацыі Х і «меў амбіцыю ўнесці ўласны арыгінальны ўклад ў разбудову арганізацыі Х». Як вынікае з яго «споведзі», дзеяч быў вялікі. «Цэлымі тыднямі прападаў ён у тэрэне». Гэта праўда, што ён як перахрысціцца да «шклянога» бога, дык сапраўды прападзе, што яго і сам люцыпар не знойдзе. Вядома ўсім, што шкло ў шклянога бога матавае, праз якое наш спаведнік не бачыў ні людзей, ні арганізацыі, ні актывіста. Не бачыў і не бачыць агромных перамен, якія адбыліся на нашай вёсцы, што цяпер наша вёска штодзень становіцца багацейшай, што ў нашых хатах гарыць электрычны свет, у нашых пакоях сучасная мэбля, часцей паяўляецца тэлевізар, а сяляне даўно перасталі хадзіць у парваных кажухах і накрывацца імі. Калі гэта здарылася нашаму спаведніку ў якогасьці актывіста, то відавочна той не хацеў п'янага палажыць спаць у чыстую пасцель, таму накрыў яго парваным кажухом, каб мець дома спакой.

Ідэйна фіксавы спаведнік, так як само слова «споведзь», у сваіх «амбітных» імкненнях ідзе яшчэ далей. Ён робіць сябе адзінокім дзеячом, які «валок на фронціку вайны падначаленыя кадры лянівых інструктараў», які ў адзіночку сваёй ахвярнасцю падняў арганізацыю Х на вяршыні росквіту. Ён тут ставіць сябе як выбраную адзінку, без якой арганізацыя не існавала б, была б «ідее фіхе». Гэта не толькі самахвальства, зазнайства, але культ адзінкі, якая безідэйна імкнулася на вяршыні прорвы.

Наш спаведнік моцна крытыкуе сябе. Ён называе сябе «хуліганам», «нахабнікам», «небяспечным маніякам». Гэта можа і праўда, калі глыбей разглядзецца ў паступках яго грамадскага і сямейнага жыцця. Ён сам прызнаецца, што якім безідэйным быў дзеячом грамадскасці, тым горшым яшчэ быў бацькам і мужам, калі пакідаў сваю хворую жонку ў затухлай пасцелі з малымі дзяцьмі і тыднямі не вяртаўся дамоў. Гэтая яўная хлусня, да якой дапусціўся наш спаведнік. У канцы сваёй «споведзі» наш спаведнік прызнаецца, што вяртаецца адзінокім і бачыць апошнюю вярсту гасцінца, людзей. Відавочна яму не патрэбныя ні людзі, ні грамадскае жыццё, ні ідэі, якімі жыве сучаснае грамадства. Гэтаму «дзеячу» патрэбны быў мяшок грошай, каб абкладаючы салам ахудзелыя грудзі сваёй жонкі і самому зашыцца ў гэтым мяшку, каб не бачыўшы людзей жыць марамі адзіноцтва.

**Сяргей Крэйза**
Мілейчыцы

(Працяг са стар. 3)

# БЫЛЫ САЛДАТ САВЕЦКАЙ АРМІІ

польскіх землях, а потым у Чэхаславакіі. Пасля капітуляцыі нямецкай арміі іх 12-ы паветраны дэсант гвардзейскі полк граміць нямецкія недабіткі ў Чэхаславакіі і Венгрыі.

Пасля накіроўваюць яго на Крым у Чарнаморскі Савецкі Флот.

У 1947 годзе Дзмітрый Самасюк вярнуўся дамоў з савецкім адзначэннем «За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне 1941—45 гг».

Зараз Дзмітрый Самасюк з'яўляецца адным з лепшых гаспадароў у Чэхах Арлянскіх на Гайнаўшчыне. Ён таксама многа робіць саламяных каробак і гэтым значна павялічвае свой сямейны бюджэт.

Здымак Дзмітрыя Самасюка з мінулых салдацкіх дзён



**Міхась Самасюк**

 



# БОГ ВАЙНЫ

У час апошняй вайны савецкую артылерыю салдаты называлі богам вайны. У бітве на Волзе, на Курскай дузе, пад Ленінградам, на ўсіх франтах Вялікай Айчыннай вайны савецкія артылерысты пакрылі сябе неўміручай славай. Недарма 30 красавіка 1945 года над рэйхстагам разам са сцягам 150-й стралковай дывізіі ўзвіўся сцяг 86-й цяжкой гаўбічнай брыгады. За вайну звыш 1800 артылерыстаў сталі Героямі Савецкага Саюза.

Савецкая артылерыя пераўзыходзіла артылерыю праціўніка па сваіх якасцях. Напрыклад, 122-міліметравая гаўбіца ўзору 1938 года не толькі паспяхова вытрымала выпрабаванні вайны, але і па сённяшні дзень з'яўляецца яна адной з найлепшых у свеце сістэм гэтага калібра. Савецкія военачальнікі ўмела выкарыстоўвалі і колькасную перавагу сваёй артылерыі. Так, у Берлінскай бітве ўдзельнічала звыш 41 тысяч армат, мінамётаў і рэактыўных установак.

З'яўленне ракетна-ядзернай зброі выклікала карэнныя змены ў ваеннай справе. Сёння ўдары савецкіх ракетных войск па сваёй магутнасці непараўнальны з агнём перыяду Айчыннай вайны. Калі яе змерыць трацілавым эквівалентам, то 775 мільёнаў снарадаў і мін, зробленых у той перыяд, далі меншую энергію, чым адна ракета з тэрмаядзерным зарадам.

Савецкія міжкантынентальныя і глабальныя ракеты могуць несці зарад велізарнай разбуральнай сілы ў найдалейшыя пункты зямлі. Пры гэтым яны практычна няўлоўныя для праціўніка і дакладна б'юць у цэль. Гэта пераканаўча даказалі пускі балістычных ракет у экваторыю Ціхага акеана.

У СССР ёсць ракеты ўсіх класаў і тыпаў. Сухапутныя войскі маюць ракетную зброю аператыўна - тактычнага дзеяння, вельмі рухлівую, выгадную, якая дзейнічае выключна дакладна і з вялікай магутнасцю.

Ці ў сувязі з гэтым ствольная артылерыя сходзіць са сцэны? Не. Канчатковая перамога над ворагам можа быць асягнута толькі супольнымі дзеяннямі ўсіх відаў збройных сіл. У СССР побач з ракетнымі войскамі развіваецца і артылерыя. На ўзбраенні ёсць самыя сучасныя ўзоры ствольных і ракетных армат, супраціўтанкавых і кіраваных снарадаў. Цяпер намнога ўзраслі агнявыя магчымасці ствольнай артылерыі. Абсталяваная складанымі электронна - вылікавымі машынамі, артылерыя беспамылкова вырашае самыя розныя заданні. Напрыклад, вядзе барацьбу з тактычнымі сродкамі ядзернага паражэння праціўніка.

Савецкія ракетныя войскі і артылерыя не толькі меч, але і надзейны шчыт краіны.





## ГУТАРКІ ДОКТАРА

# ПАЛАЧКІ

Вельмі многа людзей хварэе на сухоты, і ўсе ведаюць, што гэта хвароба заразная. Але напэўна не ўсе ведаюць, якім чынам людзі заражаюцца, а тым самым не ведаюць, як трэба асцерагацца.

Даволі даўно, бо ў 1882 годзе нямецкі вучоны Кох адкрыў новую бактэрыю падобную да палачкі або кульбачкі. І вось гэтыя палачкі з'яўляюцца прычынаю сухот у чалавека, жывёлы, курэй і інш.

Якім чынам чалавек заражаецца?

Пачнем ад самага звычайнага выпадку. У час, напрыклад, размовы, калі хворы знаходзіцца вельмі блізка здаровага чалавека, можа лёгка заразіць яго кашляючы або пырскаючы слінаю (плюючы). Другой прычынай частых сухот з'яўляецца малако ад хворых сухотамі кароў. Можна заразіцца таксама калечачы сабе руку. Напрыклад, мяснікі часамі калечаць сабе руку ў час працы пры мясе хворай штукі. «Палачкі» сухотаў надта пранырлівыя. Малыя дзеці, якія поўзаюць па падлозе ў хаце, заражаюцца праз вочы, рот і інш.

Сухотнік у сям'і павінен асобна есці і спаць. Павінен ён асобна класці сваё адзенне. Вядома, цяжка пераносіць такі спосаб жыцця, але іншага выйсця няма.

Хворы павінен чым хутчэй пастарацца выехаць на лячэнне ў санаторый. Хворых сухотамі лечаць бясплатна.

**Доктар**

# ЯКІ ЦЯПЕР ГОД?

У якім годзе вы жывяцё? Што за дзіўнае пытанне?

Але не спяшайцеся здзіўляцца. Калі вы задасцё гэта пытанне турку, той адкажа, што цяпер 1381 год. Калі ж спытаеце жыхара Афганістана, Саўдаўскай Аравіі, Лівіі або Туніса, дык вам скажуць, што цяпер 1384 год, а спытайце перса — ён назаве вам 1343 год, ізраільцянін жа адкажа, што цяпер 5725 год, а жыхар Эфіопіі, не маргнуўшы вокам, скажа, што ён жыве ў 1682 годзе.

Адкуль такая розніца?

Справа ў тым, што правобразам амаль усіх календароў быў старажытнаегіпецкі, створаны ў 5-м тысячагоддзі да н. э. Цяпер найбольш вядомымі каляндарнымі сістэмамі з'яўляюцца Юліянская, уведзена дэкрэтам Юлія Цэзара ў 325 годзе, і больш дакладная Грыгарыянская, прынятая ў 1582 г. папай Грыгорыем XIII.

У краінах Бліжэйшага і Сярэдняга Усхода побач з Грыгарыянскім календаром вялікае распаўсюджанне мае месячная каляндарная сістэма. За адпраўную дату, з якой пачалося мусульманскае летазлічэнне, было прынята 16 ліпеня 622 года Юліянскага календара.

Значную цікавасць уяўляе коптскі каляндар. У цяперашні час ён з'яўляецца афіцыйным календаром Эфіопіі. Новы год па гэтым календары пачынаецца 11 верасня.



— Капітан Рукерт, з вамі ў мяне гутарка спецыяльная, — сказаў Мельх. — Менавіта з вамі. У адным вас я бачу чалавека, які ведае, што такое загад, і не любіць задаваць лішніх пытанняў. — Ён гаварыў, не зводзячы вачэй з Дзяменцява. — Гібель нашай імперыі — трызненне гістэрыкаў. Гэтага не здарыцца, капітан, нават калі рускія сатруць у парашок Берлін, нават калі яны выйграюць вайну! Ёсць людзі, якія яе падымуць так быстра, што тыя ж — рускія не паспеюць апамятацца. Але вы разумееце, капітан, што зрабіць гэта голымі рукамі нельга. Гэтыя людзі павінны мець сродкі, каб пачаць сваю вялікую справу спачатку. Дык вось, ім, гэтым людзям, мы і адпраўляем адсюль усё самае каштоўнае. За гэта адказвае наш аддзел — я і вы.

— Я выканаю любы ваш загад! — сказаў Дзяменцяў.

— У музеі ўсё гатова?

— Апрача адрасоў на скрынях.

— Вазьміце зараз жа з сабою салдат, яны заадрасуюць. Адрас такі... Мельх працягнуў Дзяменцяву паперку. Той прачытаў: «Гамбург, Элізабэтштрасэ, 7, Грынвальд».

33

— Каму здаць скрынкі ў порце? — спытаў Дзяменцяў.

— Пакгаўз нумар чатырнаццаць, Рыхард Брандт.

— А ці не лепей будзе, калі я сам дастаўлю скрынкі проста на карабель? Гэта больш надзейна.

— Вы проста не ведаеце, хто такі Рыхард Брандт. — Ён — гестапа, і гэтым усё сказана.

Дзяменцяў выйшаў з кабінета. Вось і здарылася тое, чаго ён найбольш баяўся! Каб лепей засакрэціць свае справы, Мельх вырашыў між ім і караблём паставіць Брандта. Ён зноў адрэзаны ад порта.

Адрасаванне скрынь заняло каля гадзіны. Так, Мельх быў дасканалым арганізатарам: толькі закончылі адрасаванне, як ужо прыехала аўтамашына з салдатамі — грузчыкамі. Дзяменцяў назіраў за пагрузкай і думаў, як прарвацца ў порт.

Крокаў дзесяць ад Дзяменцява стаяў высокі афіцэр у скураным паліто без знакаў адрознення. Толькі шапка на ім была афіцэрская. Калі пагрузка закончылася, ён падыйшоў да Дзяменцява:

— Вы капітан Рукерт? — І, не чакаючы адказу, дадаў: — Я — Брандт. Ідзем.

За вуглом ён сеў за руль «Опеля» і паказаў Дзяменцяву на сядзенне побач.

— Колькі скрынь?

— Семдзесят дзевяць.

Брандт вырваў з блакнота лісток і напісаў: «Атрымана 79 скрынь спецыяльнага грузу».

— Вы забылі падпісацца, — сказаў Дзяменцяў, прачытаўшы запіску.

— Брандт паглядзеў на яго нерухомымі вачыма:

— Аддайце гэта Мельху, і ўсё. Можаце ісці.

— У порт мне ехаць не трэба?

— Не. — Брандт адчыніў дзверцы. — Да пабачэння. Дзяменцяў вярнуўся ў аддзел і ў калідоры сутыкнуўся з маёрам Зандэлям.

— Як справы, Рукерт? — спытаў той і ціха сказаў:

34

— Па-сяброўску раю: паклапачыцеся, каб аднойчы разам са скрынямі не забылі пагрузіць і вас.

— Не разумею.

— Я сказаў дастаткова ясна.

Дзяменцяў прайшоў у кабінет Мельха. Мельх узяў з рук Дзяменцява распіску Брандта, уважліва яе прачытаў, зрабіў нейкія паметкі ў сваёй запісной кніжцы, а затым дакладна спаліў распіску ў попельніцы. Урэшце ён падняў позірк на Дзяменцява:

— Вы хочаце нешта сказаць?

— Ваш Брандт мог бы быць больш ветлівы

Мельх усміхнуўся:

— Я ж тлумачыў вам: ён чалавек гестапа. У іх ветлівасць — загана!

— Значыць я адказваю толькі за пагрузку скрынь у машыны?

— Так.

— Мне здаецца, гэту работу можа выканаць радавы салдат.

— Вось як? У ваеннай машыне рэйха вы, капітан Рукерт, і ёсць радавы салдат!

— Вы не зразумелі мяне. Я проста хачу быць вам больш карысным.

— Гэта справа іншая. Дык зараз жа жміце па гэтаму адрасу. Там праводзіць аперацыю капітан Лемке. Высветліце, чаму там так доўга вазіцца і прыміце адпаведныя сродкі. Капітану Лемке было даручана ўпакаваць і адправіць у порт каштоўныя фонды цэнтральнай бібліятэкі, але ён сутыкнуўся з арганізаваным супраціўленнем работнікаў бібліятэкі, якія ноччу забарыкадаваліся ў глыбокім падвале і нікога туды не дапускалі. Лемке разгублена стаяў перад тоўстымі браніраванымі дзвярыма ў падвал. Салдаты калацілі ў дзверы прыкладамі аўтаматаў. Дзяменцяў умомант ацаніў абставіны.

— Вы капітан Лемке? Мельх загадаў вам вярнуцца ў аддзел. Сваіх салдат забярыце. Сюды ідуць мае людзі, якія ўмеюць працаваць... Што за скрыні ляжаць на двары?

35



 

